 жураўы | Выходзячы наперад |  Антыфашысцкія камітэты |  Літаратурная старонка




# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 14 (423) | ГОД IX | 5 КРАСАВІКА 1964 г. | ЦАНА 60 ГР




За «круглым сталом» (справа налева) сакратар ППРН у Беластоку Станіслаў Бэднарэк, старшыня Прэзідыума ПРН Ян Вальчук, яго намеснік Яфрэм Алексін і наш прадстаўнік рэд Міхась Хмялеўскі.

# АКТУАЛЬНЫЯ НАПРАМКІ НАШАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

## УЛАДЗІМІР ЮЗВЮК — сакратар ГП БГКТ

Бягучы 1964 год у дзейнасці Беларускага грамадска - культурнага таварыства носіць адпячатак дзвюх знамянальных падзей — 45 гадавіны БССР і 20-годдзя ПНР.

Ад першых дзён студзеня наша арганізацыя шырока адзначала ў сваёй працы саракапяцігоддзе Беларусі і хоць шмат мерапрыемстваў, звязаных з гэтай гадавінай, яшчэ не закончана, мы ўжо пачынаем усёй дзейнасці надаваць праблематыку Дваццацігоддзя народнай улады ў Польшчы.

Разам з польскім народам беларускае насельніцтва з энтузіязмам вітала вызваленне з-пад гітлераўскай акупацыі, актыўна ўключалася ў пабудову народнай улады, сумленна працавала, і зараз шырока адзначае Дваццацігоддзе. Здаецца, не будзе памылковым сцвярджэнне, што, мабыць, ні адна частка Польшчы не адчула на сабе на працягу апошніх 20 год такіх вялікіх змен на лепшае, як паўднёва - усходняя Беласточчына. А змены гэтыя наступілі ў першую чаргу ў адносінах улад да нашай нацыянальнай меншасці. Што з таго, што ў гады дваццацігоддзя санацыйнай Польшчы дзе-недзе развівалася прамысловасць, культура і г.д., калі атрымаць адукацыю, кваліфікацыю або працу было проста немагчыма. Інакш маюцца справы зараз. Шляхам стварэння дасканалых умоў да навукі і працы, шляхам развіцця прамысловасці вырашана асноўная праблема вёскі — перанаселенасць. Непазнавальна змяніліся ўмовы жыцця ў нашых вёсках. Новыя школы, святліцы, крамы, дарогі, уласныя дамы, электрычнае святло, радыё, новыя прылады працы на гаспадарцы змяняюць аблічча вёсак, ствараюць лепшыя ўмовы жыцця. Усё гэта сяляне адчуваюць.

Але працэс пераўтварэння вёскі яшчэ не закончыўся. У многіх паказчыках, як ураджайнасць сельгаскультур, прадукцыйнасць жывёлагадоўлі, у развіцці прамысловасці і транспарту мы яшчэ адстаем ад сярэдніх агульнадзяржаўных. Гэтыя дасягненні будуць у першую чаргу залежаць ад укладу працы кожнага жыхара, ад нашай актыўнасці.

Немалаважнае значэнне ў працэсе пераўтварэння жыцця насельніцтва, яго выхаванні мае наша грамадска - культурная арганізацыя. Зараз БГКТ налічвае каля 5000 членаў, якія згуртаваны ў звыш 150 гуртках. Гэты невялікі лік членаў дазволіць заініцыяваць многа карыснай грамадскай працы. Перадз'ездаўскую кампанію мы запачаткавалі дыскусіяй над напрамкамі дзейнасці ў гэтым годзе. Ужо адбыліся пасяджэнні партарганізацыі і прэзідыума ГП, у маі адбудзецца пленум, прысвечаны праблематыцы 20-годдзя, пасля якога актыў аддзелаў пачне абслугоўваць гурткі. Члены гурткоў павінны актыўна ўключацца ў пабудову дарог, святліц, упарадкаванне сваіх вёсак грамадскім чынам, арганізаваць мастацкія выступленні, вечарыны і г.д. Яны павінны быць ініцыятарамі ўсіх карысных пачынанняў на вёсцы. Штатныя працаўнікі БГКТ ужо абавязаліся выканаць працу грамадскім чынам, вартасць якой перавышае 20 тысяч злотых.

(Працяг на стар. 5)

# КАБ ПРЫГАЖЭЛА НАША ВЁСКА

Хутка бягуць гады. Неяк зусім не здаецца, што ў гэтым годзе мінае 20 год існавання народнай улады у нашай краіне, што мінае 20 год з таго часу, калі пад напорам савецкай арміі ўцякалі з Беласточчыны нямецкія захопнікі.

Давайце ўспомнім гэты час, гэты цяжкі перыяд. У большасці сем'яў была жалоба, зруйнаваныя гарады, мястэчкі і вёскі. Дашчэнту знішчана ўся прамысловасць. Амаль ад пачатку ўсё трэба было будаваць. Цяжкі быў старт новай, народнай улады. Напэўна цяжэйшы, чым даваеннай Польшчы. І зараз цікава і павучальна аглянуцца на пройдзены шлях і параўнаць гэтыя два дваццацігоддзі.

Аб гэтым раскажам вам, чытачы, на прыкладзе Беластоцкага павета. Гэты расказ павядуць кіраўнікі гэтага павета — старшыня павятовай рады нарадовай Ян Вальчук, яго намеснік Яфрэм Алексін і сакратар прэзідыума Станіслаў Бэднарэк.

Найлепшым і найбольш пераканаўчым паказчыкам двух дваццацігоддзяў з'яўляюцца дасягненні ў апрацоўцы зямлі і ўраджайнасці палёў. І тут неабходна прывесці некаторыя даныя з «Малога гадавіка Беласточчыны за 1938 год.» У ім ёсць такія даныя аб ураджайнасці: 1 га зямельных угоддзяў даваў тады 9,6 цэнтнера жыта (зараз 15 ц), 9,4 ц пшаніцы (а зараз 17 ц), 9,3 ц аўса (зараз 14 ц), 9,6 ц ячменя (зараз 16,5 ц) і 118 ц бульбы (зараз 180 ц). Падобна выглядае справа і з жывёлагадоўляй.

Як бачым, ёсць розніца ды і вялікая розніца. Вядома ўсім, калі гэты самы гектар дае больш пладоў, дык тады і гаспадар багацей жыве і краіна мае больш збожжа. А калі да гэтага дадаць яшчэ тое, што ў мінулым дваццацігоддзі было шмат абшарнікаў, што існаваў «голад зямлі», што ў кожнай вёсцы была надвышка рабочай сілы, а ў гарадах беспрацоўе, што гаспадарскі малаўраджайны гектар павінен быў пракарміць і ўтрымоўваць значна больш людзей, чым цяпер, дык вобраз мінулага становіцца яшчэ цямнейшы.

Або возьмем другую дзялянку народнай гаспадаркі — прамысловасць.

Развіццё прамысловасці за гады народнай улады беспасрэдна садзейнічае не толькі паляпшэнню матэрыяльнага ўзроўню гарадскога насельніцтва, але таксама і вясковага. У Беластоцкім павеце існуе 8 вялікіх і 56 малых прадпрыемстваў. На іх і на прадпрыемствах Беластока працуе больш 14 тысяч чалавек з Беластоцкага павета. 2300 рабочых — гэта людзі, якія маюць свае гаспадаркі. Прыведзеныя лікі напэўна гавораць самі за сябе і, здаецца, непатрэбны тут ніякія каментарыі.

Найбольшымі аднак дасягненнямі Беластоцкай вёскі з'яўляюцца электрыфікацыя, меліярацыя і механізацыя сельскай гаспадаркі.

За 20 год даваенная Польшча ў Беластоцкім павеце электрыфікавала толькі 2 вёскі, а народная ўлада за гэты ж перыяд 197 вёсак. Згодна з планамі, да 1967 года будуць усе вёскі мець электрычнае святло.

Разам з электрыфікацыяй крочыць у вёску і культура жыцця ў выглядзе радыёпрыёмнікаў, тэлевізараў, сціральных машын, электрычных рухавікоў.

Меліярацыя ахапіла 20493 га сенажацяў і паш. Выкапана 867 км равоў, 160 км рэк урэгулявана. За гады санацыйнай Польшчы меліярацыя ў

(Працяг на стар. 5)



СЯМІКЛАСНАЯ ШКОЛА Ў ГАРАДКУ. Фота М. Хмялеўскі

НАВІНЫ З ПГР-аў




Перад вачыма даўжэзны бетонны праезд. Супрацьлеглыя вароты звужаюцца ў перспектыве да невялічкага проставугольніка. Па абодвух баках роўненька, бы салдаты ў час парада, стаяць у перагародках чырвоныя кароўкі. На вышыні галавы за драбінамі жоўта-зялёнае сена. Удосталь яго і не толькі яго.

Крыху вышэй, над галавой кожнай каровы, чорныя таблічкі з клічкай, нумарам, датай ацялення і колькасцю літраў малака з апошняга надою. **Вось нумар 65.** Шырокая, прысадзістая, з вялікім вымем карова.

**Ацялілася 17 студзеня, а 10 сакавіка давала дакладна 24,6 літраў малака. Палічыце! 70 залатовак за кожным разам ляціць у вядро.** Зразумела — гэта рэкардыстка, ударніца. Другія ж чатырохногія сяброўкі спраўляюцца многа скрамней. На чорных таблічках сустракаюцца розныя паказальнікі надояў. Змяшчаюцца яны найчасцей паміж 13—20 літрамі малака. Не верыце? Паедзьце самі, каб асабіста пераканацца. Вось адрас: **ПГР Каменны Двор,** Бельскі павет. Зрэшты, можаце выбрацца таксама ў ПГР Рудка ў гэтым жа Бельскім павеце або ў кожны іншы. Усюды зараз наглядаецца вялікая дбайнасць аб рагатай жывёле.

А было цалкам інакш, многа, многа горш. Кіраўнікі дзяржаўных сельскіх гаспадарак амаль зусім не ўдзялялі ўвагі раз-

(Працяг на стар. 4)

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# СІЛА МУСКУЛАЎ ЦІ МАШЫНЫ?

Нямала ёсць яшчэ ў нас аматараў і абаронцаў коней. Што ж, традыцыя. Можа, нават яшчэ уланская традыцыя, калі коні ляцелі як стрэлы, калі бліскалі шаблі.

Беластоцкі селянін можа мець худую карову, дзве — тры абы як дагледжаныя свінкі — гэта дапускаецца. Але конь павінен мець круглыя бакі, ільснець, ірваць, як віхар. Найлепшая месца ў хляве — для каня; найсмачнейшы корм — для яго, калі чысціць жывёлу, дык каня ў першую чаргу.

У ваяводстве налічваецца 220 тыс. коней. У апошні год, на дзіва, конскі род павялічыўся яшчэ на 1%. Можна пачуць галасы, што трактары — гэта прыгавор смерці на коней, якія столькі год нам аддана служылі. Іншыя гавораць аб «мірным суіснаванні» каня і механізацыі, трэція сумняваюцца, каб стальныя коні маглі перамагчы каштанак і гнядых.

Найбліжэй ад праўды знаходзяцца тыя, што думаюць аб «мірным суіснаванні». Праблема заключаецца не ў тым, каб поўнасцю ліквідаваць коней, але абмежаваць іх колькасць. У даны момант дамінуе сіла жывых коней, і так павінна быць, бо пакуль яшчэ мала ў нас трактароў (1200 штук) з камплектамі машын. Беручы статыстычна, трактар прыпадае на кожную трэцюю вёску. З гэтага вынікае, што коні маюць нямала работы.

У канцы пяцігодкі мы будзем мець каля 4500 камплектаў з трактарамі. Гэта павінна прынесці за сабой змяншэнне пагалоўя коней. Ёсць паветы, дзе праяўляецца вялікае зацікаўленне механізацыяй палявых работ (Беласток, Сямяцічы, Бельск, Элк, Монькі). Ёсць грамады, вызначаныя на комплексную механізацыю.

Маем значныя даходы ў маштабе ваяводства: 1961 год — 2,3 млн. зл., 1962 год — 4,2 млн. зл., 1963 год — 7 млн. зл. Але не гэта найважнейшае. Галоўнае — лепшая апрацоўка зямлі, хуткасць палявых работ, меншы сабекошт прадукцыі і ашчаднасць зерня. Так, так, нашы каштанкі з'ядаюць тысячы тон зерня.

А перспектывы? Конь будзе патрэбны нам нават і пры шырокай ступені механізацыі. Толькі не 14 на 100 га, як цяпер, а 2—3. Вялікія шанцы маюць пароды сярэдніх па велічыні коней. Такой з'яўляецца сакольская парода коней: конь невялікі, устойлівы на хваробы, невыбрэдны, добра цягне. Сакольскія коні карыстаюцца вялікім зацікаўленнем сярод конегадоўцаў. Магчыма, што гэта парода распаўсюдзіцца ў іншых паветах і нават у суседніх ваяводствах. Вядома, згодна з патрэбамі вёскі.

Сакольскімі коньмі цікавіцца нават заграніца. Некалькі коней купіла Індыя. Заглядаюць да нас і пакупнікі з іншых краін.

Аднак трэба шчыра прызнацца: сіла мускулаў не пераможа сілы машыны.

**Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ**

# ДАРОГА СЛАВЫ

## АНТЫФАШЫСЦКІЯ КАМІТЭТЫ

Успамінае **Аляксей Юрчук,** былы член КПЗБ і адзін з арганізатараў антыфашысцкага камітэта ў Дубінах:

«Гітлераўская акупацыя застала мяне ў Дубінах. Як для большасці людзей, усё, што здарылася, было для мяне вялікай нечаканасцю. Але не было часу на роздумы. Людзі паступова даходзілі да сябе ад усяго, што так раптоўна звалілася на іх.



**Янка Верамюк з Дубін. Былы дзеяч КПЗБ, арганізатар і старшыня антыфашысцкага камітэта ў Дубінах, партызанскі сувязны. Павешаны ў Белавежы на пачатку 1943 года.**

Сусед сустракаўся з суседам, абменьваліся навінамі. Па начах таямніча знікала зброя і амуніцыя, якія валяліся па палях. Людзі разумелі, што спатрэбіцца. У нас у Дубінах было нямала праверанных дзеячоў КПЗБ. Мы вырашылі дзейнічаць. Пачыналі вельмі асцярожна, бо ў вёсцы стаялі немцы. Першы арганізацыйны сход адбыўся ў канцы ліпеня 1941 года. Склікаў яго Янка Верамюк, вядомы камуністычны дзеяч, жыхар Дубін. Сход адбыўся ў клуні Барыса Яканюка. Прыпамінаю сабе, што былі там, апрача Верамюка і мяне, Сцяпан Койла, Міхальчук і іншыя. Мы сядзелі ўпоцемку: шэптам гаварылі аб вайне, аб хуткім пасоўванні гітлераўцаў на ўсход, аб нашым становішчы. Янка Верамюк вельмі ўдумліва ацэньваў становішча. Верыў у перамогу Савецкай Арміі, так як і мы ўсе, і трапна ацэньваючы становішча ва ўмовах акупацыі, гаварыў аб неабходнасці ўзброенай барацьбы, аб стварэнні падполля. Якраз тады мы арганізавалі антыфашысцкі камітэт. На чале яго стаў Янка Верамюк. Мы абмеркавалі формы дзейнасці: дзе і як збіраць і хаваць зброю, як прыцягваць у падпольную працу больш людзей, як дапамагаць савецкім байцам і афіцэрам з Белавежскай пушчы. Выходзячы з клуні, мы адчувалі сябе духоўна мацнейшымі. Ужо ведалі, што трэба рабіць. У нашу арганізацыю прышлі моцныя людзі, якія добра разумелі, за што бяруцца. Такі быў у нас, у Дубінах, пачатак падпольнага антыфашысцкага руху. Потым прыйшла партызанская дзейнасць...»



**Кацярына Смірнова са Снежак. Арганізатар антыфашысцкіх камітэтаў у былым Бельскім павеце, потым партызанка атрада імя Пархоменкі.**

Антыфашысцкае падполле ахапіла таксама і беларускія вёскі ў Бельскім павеце. Першыя групы руху супраціўлення пачынаюць дзейнічаць у Снежках, Белках, Дубне, Нурцы і Шашылах.

Успамінае **Кацярына Смірнова,** былы арганізатар антыфашысцкіх камітэтаў у Снежках і навакольных вёсках:

«Я была настаўніцай і дэлегатам рады нарадовай вёскі Снежкі. Любоў да айчыны і камуністычнай партыі, а таксама зверствы гітлераўскіх акупантаў завялі мяне ў рады антыфашысцкай арганізацыі, а затым у партызанскі атрад імя Пархоменкі. Як мы пачыналі? Спачатку ўсведамлялі жыхароў нашай вёскі і падбіралі людзей на сувязных. Адначасова збіралі зброю і дапамагалі савецкім сябрам, якія хаваліся ў лясах. Першымі арганізатарамі падполля ў нас былі Аляксандр Саўчынскі і Анатоль Федарук з вёскі Белкі, якія ў час санацыі як дзеячы КПЗБ сядзелі 4 гады ў Беластоцкай турме. Іх вернымі памочнікамі ў арганізацыі падпольнай работы былі Рыгор Кучук і Іван Саевіч са Снежак, а таксама Ганна Кастрыцкая, грамадзянка Савецкага Саюза. Канспірацыйныя сходы адбываліся ў Вольгі Баранскай.

Гаворачы аб арганізацыі антыфашысцкага камітэта, з якога потым арганізаваўся партызанскі атрад імя Пархоменкі, трэба ўспамянуць аб жыхарах Снежак. Гэтая вёска ў гады буржуазнай Польшчы была вельмі беднай і адсталай. Калі ў 1939 годзе сюды прыйшла Чырвоная Армія, жыхары Снежак атрымалі зямлю з падзеленых панскіх маёнткаў, а многія сяляне — нават коней і кароў. Будынак маёнтка быў перабудаваны пад школу. Гітлераўцы забралі ў жыхароў кароў і коней, а школу разабралі на паліва. Пачаліся жорсткія праследаванні.



**Аляксей Юрчук з Дубін. Былы член КПЗБ, адзін з арганізатараў антыфашысцкага падполля ў Дубінах, партызан атрада імя Дзяржынскага.**

Амаль усе жыхары Снежак удзельнічалі ў арганізацыі падполля, збіралі зброю і дапамагалі тым, што хаваліся ў лесе, а пазней партызанам».

І так антыфашысцкі рух узнікаў амаль у кожнай беларускай вёсцы, у кожным мястэчку Беласточчыны. Аб іншых арганізатарах і групах — у наступным нумары «Нівы».



**Анатоль Федарук з Белак. Арганізатар антыфашысцкага падполля, потым партызан атрада імя Пархоменкі.**

**А. АМІЛЬЯНОВІЧ**



(Працяг са стар. 1)

віццю жывёлагадоўлі. Чатыры гады таму ў ПГР-ах налічвалася ўсяго 25 тысяч кароўіх хвастоў. Хвастоў таму, што жывёла толькі напамінала кароў. У адным кароўніку можна было сустрэць амаль поўны камплект усіх парод: і чырвоныя, і чорныя, і пярэстыя, і лацятыя, і ўсялякія. Напрадвесні ўсе аднолькава галадалі, бо не было чым карміць. Абы да вясны, — гаварылася тады ў ПГР-ах, — пойдуць на зялёную траву, дык аджывуць. Вясной выганялі на выган і трымалі там бедных каровак аж да першага снегу. Што ж, кароўка не чалавек, заявак са скаргамі пісаць не будзе.

У 1961 годзе праведзена ў ПГР-х праверка стану заражэння сухотамі. Аказалася, што амаль палавіна пэгээраўскіх каровак (асабліва многа цялят), паспела ўжо пазнаёміцца з гэтай небяспечнай хваробай. Каб пазбегнуць далейшага распаўсюджвання сухот, заражаныя каровы павінны былі пайсці на мяса.

**На месца іх прышлі пародзістыя каровы з другіх ваяводстваў або нават з другіх краін.** Найбольш кароўнікаў запоўнілася чырвонай польскай пародай. Знайшліся аднак кароўкі з чырвонай дацкай пароды і з англійскай пароды джэрсей. Пераважна былі гэта маладыя каровы яшчэ на ацяленні.

Усё гэта каштавала многа грошай. Нельга было аддаць такі каштоўны пародзісты матэрыял у нявопытныя рукі. Людзі, якія дагэтуль толькі па божай і кіраўніка гаспадаркі волі даглядалі жывёлу, паехалі пераймаць тайны сваёй цяжкой прафесіі ад жывёлаводаў у Варшаўскім, Познаньскім, Уроцлаўскім і Лодзінскім ваяводствах.

Абаровы — гэта цяпер не толькі той чалавек, што вывозіць гной з абоpы, гэта перш за ўсё ўсебаковы знаток натуры кароў. У ПГР-ах апавядаюць вось такі анекдот: «Прыехаў нейкі інспектар на кантроль, зразумела, з вялікага горада. Ходзіць па кароўніках і паглядае на кароў. Нарэшце пытае:

— Чаму гэтая красуля такая сумная?

— Яна, таварыш інспектар, ужо двое цялят прывяла нам, а яшчэ быка не бачыла, — высніў справу абаровы.

Цяпер ужо не адна, а большасць кароў у ПГР-ах зусім быкоў не бачыць, а целяцца яны рэгулярна кожны год. Штучнае запладненне або, як кажуць спецыялісты, **інсемінацыя** — вось цяпер папулярны метад, пры дапамозе якога паспяхова разводзіцца кароўі род у ПГР-ах. **Інсемінацыя гарантуе чысціню пароды.** Бычкі цяпер толькі прадукуюць насенне. У ПГР-аўскіх кароўніках ёсць іх зараз каля 400 штук. Будзе 500. Гэта поўнасцю пакрые запатрабаванні пэгээраў Беластоцкага ваяводства.

Для многіх дзяржаўных гаспадарак гадоўля бычкоў з'яўляецца **аднак** крыніцай залатога **даходу. За аднаго пародзістага кавалера чырвонай дацкай пароды плацяць у сярэднім 20—25 тыс. зл.!** Факт, не памылка.

Карова — гэта не толькі малако. Некаторыя ПГР-ы закладаюць абоpы яловак па 300—400 штук. Там гадуюць цялят да 100 кілаграмаў жывой вагі і прадаюць. Гэта вельмі аплачваецца.

Многае змянілася ў ПГР-ах на працягу апошніх гадоў, — у жывёлагадоўлі таксама. **Змянілася на лепшае.** Цяпер ужо ў ПГР-аўскіх кароўніках Беластоцкага ваяводства стаіць больш 32 тысяч галоў рагатай жывёлы. Да 1970 года колькасць іх павялічыцца да 50 тысяч. Гэтакі вызначылі сабе план на бліжэйшую пяцігодку. Існуючыя ўжо кармавыя запасы і падрыхтаваныя людзі гарантуюць паспяховае выкананне іх намераў.

**В. РУДЧЫК**

НАВІНКІ ВЯСКОВАГА ГАНДЛЮ

# БУДЗЕ СВЕЖАЯ РЫБКА

Рыбы ў нас людзі ядуць мала. А рыба гэта ж фосфар. А фосфар — гэта ж моцныя косці. Але не нервуйцеся, будзе ў нас рыбы трохі больш.

Якім спосабам?

Звычайна, гаспадарскім. Вось у вёсцы Тарнопаль ужо ад давен-даўна існуюць занядбаныя, зарослыя сажалкі. ГС у Нараўцы ўзяў іх пад сваю апеку, ачысціць і «пасее» тут рыбку. На восень яна вырасце. Проста, праўда? Значыць, брава ГС-у ў Нараўцы! ПЗГС-у ў Гайнаўцы таксама, бо гэты хоча заапекавацца такім жа чынам 20-цю гектарамі запушчаных сажалак у вёсцы Тапіла. Нейкае «але» ставіць тут саюз рыбаловаў, але верым, што рассудак пераможа, а свежая рыбка на паднябенні ў перспектыве павінна памагчы рассудку.

(вл)

# ДВАЦЦАЦІГАДОВЫ МАРШ

Так ужо павялося ў нас, што ў круглыя гадавіны, у 10, 20 год і г.д., аглядаемся на пройдзены шлях, падсумоўваем зробленае. У гэтым годзе наша краіна адзначае XX гадавіну народнай улады. На вёсках Бельшчыны ў сувязі з гэтым адбываюцца ўрачыстыя сходы, спалучаныя, як правіла, з мастацкай часткай. Такія ўрачыстасці адбыліся нядаўна ў Войшках і Паўлах. У абедзвюх вёсках у мастацкай частцы з багатым рэпертуарам выступалі самадзейнікі з Паўлаў. У дакладах прадстаўнікоў вясковых камітэтаў фронту адзінства народа былі прыведзены цікавыя дадзеныя. (У Войшках чытаў даклад кіраўнік школы Аляксандр Барташук, а ў Паўлах — настаўнік Сяргей Філіпюк).

А вось некаторыя з іх:

**Войшкі.** За 20 год народнай улады ў Войшках пабудаваны 80 дамоў і шмат іншых гаспадарскіх будынкаў, школа, крама і дарога да Трычоўкі. Вёска электрыфікавана і радыёфікавана. Жыхары Войшак маюць 22 матацыклы, адзін грузавік, 30 радыёпрыёмнікаў і 2 тэлевізары. Закончыла або вучыцца ў сярэдніх школах і вышэйшых школах 150 чалавек.

Будынкі Міколы Семенюка з Войшкаў.

**Паўлы.** За перыяд існавання народнай улады у Паўлах пабудавана 55 дамоў. Гаспадары набылі 32 матацыклы, 2 аўтамашыны і 1 грузавік. Жыхары вёскі чытаюць 180 розных часопісаў. Гаспадары Паўлаў завялі трускалкі на плошчы 5 га. З продажу іх дзяржаве маюць каля 500 тысяч зл даходу ў год. У вёсцы добра працуе сельскагаспадарчы гурток. Мае ён трактар з поўным камплектам сельскагаспадарчых машын. Чысты даход гуртка за 1963 год складае суму 19 700 зл.

Гэтыя некаторыя лічбы з Войшак і Паўлаў дасканала гавораць аб вялікім поступе нашага часу, аб росце дабрабыту працоўных вёскі.

**М. Хмялеўскі**



**Мастацкі калектыў з Паўлаў, якім кіруюць настаўнікі мясцовай школы, разгарнуў шырокую дзейнасць. У яго праграме цікавы музыкальна - літаратурны мантаж, выступленне харавой групы і салістаў і дзве пастаноўкі — «Валодзін гальштук» і «Боты». Самадзейнікі з вялікім поспехам давалі канцэрт у сваёй вёсцы, у Войшках і ў памяшканні ГП БГКТ у Беластоку.**

**На здымку сцэна з пастаноўкі «Валодзін гальштук».**

# АДЗІН З МНОГІХ

(Працяг са стар. 2)

Раніцай 1 Мая, пасля снедання, усе мы прычапілі на грудзі чырвоныя банты. Спадзеючыся зрывання іх турэмнымі наглядчыкамі, мы мелі схаваныя пры сабе банты ў запасе.

А гадзіне 9-й наглядчык - ключнік адчыняе дзверы нашых камер і выпускае нас на прагулку. Сыходзім з нашага паверху ўніз, дзе аж да выхаду на турэмны панадворак стаяць у два рады турэмныя наглядчыкі. Мы ідзем па дваіх, наглядчыкі сягаюць да нашых грудзей і зрываюць нашы чырвоныя банты. Мы пратэстуем і ідзем на панадворак. Паўгадзіны шпацыруем спакойна без бантаў, як бы нічога і не было. Раптам стараста «камуны» затрымоўваецца на сярэдзіне панадворка і падымае руку ўверх. На гэты знак усе мы сыходзімся да яго, начапляючы на грудзі чырвоныя банты. Вакол турмы за мурамі чуваць былі шматлікія галасы, пераважна з боку плошчы Баторыя, дзе, як потым мы даведаліся, збіраліся гродзенскія рабочыя на першамайскую дэманстрацыю. З сярэдзіны сабраўшыхся на панадворку палітвязняў Уладзімір Мажэйка магутным голасам выкрыкваў лозунгі: «Хай жыве свята працоўных — Першае Мая! Хай жыве Камуністычная Партыя Заходняй Беларусі! Хай жыве Сацыялістычная рэвалюцыя!»

А з нашых грудзей пачалі вырывацца магутныя словы гімна рэвалюцыі:

«Паўстань, пракляты, катаваны...»

За мурамі турмы працоўныя чулі нашы лозунгі, бо выразна былі чуваць водгукі «Хай жыве», а пачатыя намі словы інтэрнацыянала былі падхоплены на плошчы Баторыя. Такі момант не можна забыць да самай смерці.

На панадворак пачалі ўбягаць турэмныя наглядчыкі на чале з начальнікам турмы і з крыкам «канец прагулкі!» заганялі нас з панадворка ў калідор, дзе чакалі на нас наглядчыкі з гумовымі палкамі ў руках. Яны накідаліся на нас, зрывалі чырвоныя банты і білі палкамі па чым папала. Чуліся нашыя крыкі: «Б'юць! Прэч катаў! Хай жыве Першае Мая! Катуюць палітвязняў! Далоў фашысцкі тэрор!»

Б'ючы, заганялі нас у камеры. У камеры мы беглі да акон і крычалі аб катаванні палітвязняў. Чуваць быў гул галасоў і лозунгі за мурамі турмы. Каля дваццаці чалавек, у тым ліку, як памятаю, Пераналоцкага, Піліпа Пестрака, Файвеля Вайнера, Піліпа Кізевіча, Антона Расінскага і іншых турэмных актывістаў павалаклі збітых у карцэры, дзе трымалі іх суткі. На знак пратэсту мы не прынялі абеду, дамагаючыся вызвалення таварышоў з карцэраў.

## НАШЫ ІНТЭРВ'Ю



# Ірэна Эйхлеруўна адказвае „Ніве"

Пісалі мы ў «Ніве», што ў сакавіку ў Беластоку выступаў Народовы тэатр з Варшавы з п'есай «Брытанік». У ролі Агрыпіны — маці Нерона — выступіла вядомая актрыса Ірэна Эйхлеруўна, якая згадзілася адказаць на некалькі пытанняў нашага журналіста.

**— Як даўно вы звязаны са сцэнай?**

— Я належу да даваеннага пакалення акцёраў. Першы раз іграла ў Вільні. Мой дэбют быў там у «Дзядах» Міцкевіча.

**— Колькі роляў вы ігралі?**

— Многа, але яшчэ не лічыла.

**— У чым, па-вашаму, заключаецца сакрэт папулярнасці акцёра?**

— Іменна над гэтым разважаюць заўсёды і ўсе ў нашай прафесіі. Я думаю, што ўсюды ёсць людзі, якія неяк проста здабываюць сімпатыю бліжніх, а чым з'ўляецца ўжо здабытая — на гэта могуць адказаць толькі тыя, хто патрапіць яшчэ кагось любіць.

**— Якога роду ролі вы любіце іграць?**

— Так як я іграю пераважна т. зв. «вялікі рэпертуар», значыць, правам кантрасту заўсёды ўздыхаю да камедыйных роляў, якіх зрэшты многа іграю ў нашым радыё. І гэтыя найбольш люблю.

**— Якое ўражанне зрабіў на Вас Беласток?**

— Я не хацела б нікому зрабіць прыкрасці, але патрасаючым для мяне проста з'яўляецца абледзянелы пляц каля тэатра. Як дабрацца да тэатра? Асабліва без альпіністкіх ботаў, падбітых цвікамі і без цюпагі. Адзін з маіх калег звіхнуў нагу, я ўпала і пабіла руку. Але спектаклі адбыліся. І нават, на нашае здзіўленне, людзі прыйшлі. Толькі як — мы не ведаем. Таму я лічу, што публіка ваша — цудоўныя людзі.

Размаўляла **Вера Леўчук**

# Каб прыгажэла наша вёска

(Працяг са стар. 1)

Беластоцкім павеце зусім не праводзілася. А вядома, што меліярацыя для сялян азначае шырэйшае развіццё жывёлагадоўлі, а гэта значыць, большыя магчымасці павелічэння даходаў з продажу мяса і малака.

Велізарны скачок зроблены ў механізацыі сельскай гаспадаркі. Многія гаспадары маюць шмат машын, а сельскагаспадарчыя гурткі ў канцы гэтага года будуць мець 177 трактароў з поўнымі камплектамі машын і 170 малацільных агрэгатаў.

У даваеннай Польшчы зусім не была механізавана праца земляроба. Не было сельскагаспадарчай тэхнікі і ў маёнтках, калі не лічыць таго, што ў абшарнікаў Беластоцкага павета налічвалася 12 сеўнікаў, 2 малацілкі і 1 трактар.

За гады народнай улады пабудаваны сотні прыгожых дамоў на вёсках, шмат святліц і рэміз, 36 новых школьных будынкаў, дзесяткі кілометраў дарог і вуліц. Многа чаго робіцца грамадскім чынам.

На нашых вачах радыкальна змяняецца аблічча вёскі. Вялікія перамены і ў асабістым жыцці людзей. Іх можна ўбачыць і ў вопратцы, якая нічым не адрозніваецца ад вопраткі гаражан, добрая мэбля ў кватэрах, людзі добра харчуюцца.

З кожным годам будзе яшчэ больш змяняцца жыццё на вёсцы, таму што дзяржава прызначае вялікія сумы на развіццё сельскай гаспадаркі. Напрыклад, на меліярацыю ў гэтым годзе ў павеце прызначана 18 мільёнаў зл, а на 1965 год — 22 мільёны злотых.

IV З'езд партыі і XX гадавіну народнай улады Беластоцкі павет спатыкае з вялікім працоўным уздымам. 28 студзеня ПРН і павятовы камітэт Фронту адзінства народу апрацаваў план адзначэння юбілею Польшчы і звярнуўся да насельніцтва з заклікам: «20 гадзін грамадскай працы на XX-годдзе нашай дзяржавы». Выкананне накрэсленых планаў будзе садзейнічаць далейшаму гаспадарчаму і культурнаму развіццю Беластоцкага павета.

**М. ХМЯЛЕЎСКІ**

# ДАРОГУ ГРАМАДСКАЙ ІНІЦЫЯТЫВЕ

Сяляне, якія прадаюць дзяржаве малако, ужо некалькі чарговых год на сходах дастаўшчыкаў вырашаюць плаціць па тры грошы ад літра малака на фонд будовы злеўняў. Гэта высакародны пступак жыхароў Бельскага павета. На першага студзеня 1964 года на рахунку гэтага фонда ў Бельскім павеце было 2 126 тыс. зл. З гэтай сумы прыпадае на акруговую малачарскую спулдзельню ў Бельску - Падляшскім 1 249 тыс, у Пасвентным — 131 тыс. зл., у Бранску — 667 тыс. зл., у Заблудаве — 78 тыс. зл. План павятовага камітэта Фронту адзінства народа ў 1963 годзе прадбачваў з гэтага фонда пабудаваць 12 злеўняў малака праз акруговыя спулдзельні ў Бельску - Падляшскім і Бранску. Аднак праўленні малачарняў не дацанілі гэтых спраў і не выканалі ўзложаных на іх абавязкаў у 1963 годзе. Яны не падрыхтавалі на час дакументацыі, не падрыхтавалі неабходных будаўнічых матэрыялаў і г.д. Была пачата толькі будова злеўні ў Катлах і Альшэве. Бранская малачарня падрыхтавала толькі дакументацыю на некалькі злеўняў і пабудавала пяць калодзежаў пры існуючых.

У гэтым годзе — у годзе святкавання XX гадавіны народнай Польшчы — малачарні намагаюцца надрабіць свае залегласці адносна будовы злеўняў. Так, малачарня ў Бельску абавязалася ў 1964 годзе пабудаваць дванаццаць злеўняў у наступных вёсках: Дубяжын, Кожын, Невіна - Баровэ, Андрыянкі, Крывая, Кнаразы, Орля, Стрыкі, Боцькі, Грабавец, Пульшчы, Красновесь. Закончыцца таксама будова злеўняў у Катлах і Альшэве.

Акруговая малачарская спулдзельня ў Бранску плануе пабудову пяць злеўняў: у Шмурлах, Кліках, Свірыдах, Сельцы і Войтках.

Малачарня ў Рыбалах выбудуе злеўню ў Рыбалах, а малачарня ў Пасвентным — у Гурскім. Будова злеўняў — пільная справа. У гэтай дзялянцы трэба яшчэ многа зрабіць на Бельшчыне. Да гэтага часу толькі ў раёне малачарні ў Бельску - Падляшскім 33 злеўні малака знаходзяцца ў прыватных памяшканнях, у рознага роду шопах, хлявах і пакінутых хатах.

Вось таму будовай злеўняў малака павінны цікавіцца ўсе: і акруговы аддзел малачарняў у Беластоку, і прэзідыум ПРН у Бельску, і грамадскія рады нарадовыя, і самі сяляне.

**Ул. Кучынскі**
Бельск

# Актуальныя напрамкі нашай дзейнасці

(Працяг са стар. 1)

Ва ўсёй дзейнасці таварыства шырока прадбачваецца праблематыка 20-годдзя Польшчы. Так, напрыклад, чацвёртая частка ўсіх радыёгутарак на беларускай мове праз радыёвузлы паўднёва - усходняй Беласточчыны будзе тэматычна звязана з дваццацігоддзем. Пры дапамозе актыву на падставе падрыхтаваных лекцый аб эканамічных і культурных пераўтварэннях у нашых асяроддзях будзе прачытана каля 100 лекцый, спалучаных з дыскусіямі і столькі ж гутарак перад канцэртамі эстрады «Лявоніха» і кінасеансамі. Праца лектарскай групы будзе накіравана на праблематыку 20-годдзя. Прадбачваецца правесці пяць фестываў, дзве акадэміі, 20 конкурсаў і г.д. Існуючае пры ГП літаб'яднанне «Белавежа» ўжо пачало падрыхтоўку матэрыялаў у альманах, у якім будуць змешчаны найлепшыя вершы і апавяданні аб зменах на вёсцы. У красавіку выйдзе зборнік навуковых прац, а ў лістападзе — беларускі каляндар, прысвечаны 20-годдзю.

Прадбачваецца шмат сустрэч з дзеячамі, якія актыўна ўдзельнічалі ў стварэнні народнай улады, у працы рад нарадовых і грамадска - культурных устаноў.

Гэты кароткі пералік напрамкаў дзейнасці паказвае, што асноўная праца будзе выконвацца праз актыў БГКТ у аддзелах і ў супрацоўніцтве з іншымі ўстановамі. Таму адносіны актыву да нашых пачынанняў будуць вырашаць аб поспехах намечаных мерапрыемстваў.

Сакратар ГП БГКТ
**УЛ. ЮЗВЮК**

